 

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

22—28 КАСТРЫЧНІКА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 35000 РУБЛЁЎ
№43 (235)

## АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

### Кантактам на кантакт

Мастак **Мікола Аўчыннікаў** паехаў у Швецыю выстаўляць свае работы.

Дэманстрацыя яго акварэляў – гэта другі этап міжнароднага супрацоўніцтва паміж культурнымі асяродкамі Маладзечна і шведскага горада Стрэнгнэса. Швед Ларс–Ёран Малмгвіст у ліпені выстаўляў свае фотаработы ў Маладзечне. Спансіруе паездку нашага земляка Свенск–інстытут Стакгольма і камуна (савет горада).

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

### Яшчэ адзін ВІЧ–інфіцыраваны

У верасні рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу зарэгістраваў трэцяга па ліку інфіцыраванага з Маладзечна. Маладзечна – па–ранейшым адзіны горад рэгіёна (геаграфіі распаўсюджання “РГ”), дзе ёсць такія сумныя лічбы.

Усяго ў рэспубліцы зарэгістравана 2626 інфіцыраваных на СНІД. З іх 26 – за верасень. Па дадзеных цэнтра, ў Мінску 268 інфіцыраваных, 46 – на Міншчыне, 21 – на Гродзеншчыне.

*Аддзел інфармацыі.*

МЯДЗЕЛ

### Ходзяць у школу дзядулі

Мясцовую СШ №1 наведваюць і 70–гадовыя. На базе школы працуе група здароўя, кіруе якой урач–тэрапеўт Вячаслаў Трубач. Пра стан свайго здароўя клапоцяцца не толькі старыя. У групе дастаткова і моладзі.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

СМАРГОНЬ

### Першы аўтарынак

Апошнім часам справы на станцыі тэхнічнага абслугоўвання пайшлі на лад. Стратная раней гаспадарка пакрысе надымаецца на ногі, сюды ўжо калі–нікалі выстройваюцца невялікія чэргі аўтааматараў.

Каля станцыі арганізавалі платную стаянку аўтамабіляў, а на незадзейнічаных пакуль вытворчых плошчах, з дазволу райвыканкома, арганізавалі аўтарынак. Па суботах і нядзелях жадаючыя могуць купіць тут аўтамабілі самых розных марак, а таксама запасныя часткі да іх.

Такім чынам, у квітнеючай прыватнай фірмы “Ліст” з‘явіўся сур‘ёзны канкурэнт.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Міжнароднае прызнанне

Абласны лялечны тэатр “Батлейка” атрымаў дыплом міжнароднай асацыяцыі тэатраў лялек УНІМА за “творчы пошук і своеасаблівасць пастановачных сродкаў”. На чацвертым міжнародным тэатральным фестывалі “Белая вежа” у Брэсце маладзечанцы паказалі п‘есу Аляксея Ляляўскага “Пакінуты ўсімі”.

*Аддзел інфармацыі.*

МЯДЗЕЛ

### Мацяркі далі жыццё алеі

Паблізу раённага вузла сувязі закладзеная “Алея маці”. Бярозы, рабіны, елкі, клёны пасадзілі мацяркі разам са сваімі дзецьмі, вучнямі СШ №3.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

СМАРГОНЬ

### Вопратка з пакулля

Два гады таму на льнозаводзе адкрылі лінію нятканых матэрыялаў, каб перапрацоўваць адходы вытворчасці, – пакулле.

Перапрацаванае пакулле ахвотна набывалі будаўнічыя арганізацыі. Цяпер на яго попыт і ў швейнікаў, і і мэбельшчыкаў. Прадпрыемствы Брэста, Гомеля, Магілёва купляюць яго да 100 тысяч пагонных метраў у год.

*Тарэса КУМІШЧА.*

СМАРГОНЬ

### Сустрэча праз 40 год

**Станіслава Тамашэвіч і Мечаслаў Дэгісь** на 40–годдзе свайго вяселля вырашылі, па магчымасці, сабраць за святочным сталом удзельнікаў таго, свайго камсамольскага, вяселля. На жаль, многія ўжо пайшлі з жыцця. Тым не менш, 24 кастрычніка чакаецца палова з запрошаных тады 112 чалавек.

*Тарэса КУМІШЧА.*

АСТРАВЕЦ

### На вахту ў свой раён

Лясгас датэрмінова выканаў план па забеспячэнні дровамі льготнай катэгорыі насельніцтва – толькі ў Міхалішскім лясніцтве, якое найбольш пацярпела ад урагану, застаецца павалена каля 50 тысяч кубоў драўніны. Каб разбіраць і пусціць на прызначэнні завалы, работнікі лясгаса выкарыстоўваюць вахтавы метад. А каб было зручна, “леснікі” наймаюць жыллё ў бліжэйшых вёсках.

*Таісія СЯМЁНАВА.*



АЦЯПЛЕННЕ

# Цяпло – толькі па загадзе «зверху»

*По ўсіх прыкметах атрымліваецца, што гэтая зіма будзе халодная — хаця б таму, што лета спякотнае было, а грошай ды паліва на зіму малавата. У мінскіх кватэрах, прыкладам, мяркуецца, што крытычны мінімум знізіцца на 5° (замест +16+18° будзе +11+13°).*

У панядзелак прайшоў першы снег. А тэлефоны гарайвыканкомаў рэгіёна ад званкоў ажно распаліліся.

– Калі ў кватэрах будзе цяпло? – пытанне цяпер адно.

Чыноўнікі стаміліся адказваць, што ацяпляць жыллё будуць “толькі пасля загаду зверху”. Нягледзячы на халоднае надвор‘е, даваць загад у сталіцы не спяшаліся. Эканомія, маўляў, паліва. Пакуль эканомілі, у паліклініках чэргі ў рэгістратуру за талончыкамі да ўрача падоўжыліся ўдвая. Па самых сціплых падліках, удвая павялічылся спажыванне газу (бясплатна, у асноўным!), рэзка вырасла і спажыванне электраэнергіі (пры цяперашніх яе лімітах і абмежаваннях). Так што гаварыць пра нейкую эканомію, па меншай меры, наіўна.

СМАРГОНЬ. 13 кастрычніка падалі ў кватэры гараджанаў ацяпленне. З гэтага ж дня амаль кругласутачна падаецца і гарачая вада.

*Павел МАКЛЮК.*

РАДАШКОВІЧЫ. Старшыня пасялковага савета **Аляксандр Кахоўскі** не парадаваў:

– Нічога канкрэтнага сказаць не магу. Кошт мазуту – 75 умоўных адзінак за тону, ААТ “Белмастацкераміка” прапануе заплаціць усе 100 “у. а.”, але дзе ўзяць паліва? Пакуль пытанне застаецца адкрытае. Чуў, што існуюць абмежаванні на продаж расійскага мазуту.

*Надзея ЛІСАВА.*

ВІЛЕЙКА. Галоўны энергетык завода “Зеніт” Васіль Манчанка запэўніў, што зенітаўская кацельня да работы зімой падрыхтавана.

Звычайна каля 80% цяпла яна дае гораду. Астатнія ідуць на патрэбы завода. З трох вадагрэйных катлоў адзін яшчэ рамантуюць. Але “капіталка” павінна завяршыцца да канца месяца. Ды і пакуль ён без патрэбы. У самы моцны мароз задзейнічана 2 катлы. Адзін – рэзервовы.

“Зенітаўская” кацельня працуе на мазуце. Зімні расход паліва 100–120 тон за суткі. Пры тэмпературы паветра ад 0 да 5 градусаў марозу – напалову меней. На сёння ў ёмістасцях каля 2 тысяч тон. Гэтага хопіць на месяц. Але паліва будзе падвозіцца перыядычна і не памногу. Хаця “Зеніт” адразу можа прыняць 10 тысяч тон мазуту.

**Працяг тэмы на 2 стар.**



*Машыніст паравога катла Іосіф Ясюкевіч.*
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ГРОШЫ

# Мільянерамі пабылі – дэнамінацыя!

***З 1 студзеня 2000 года будзе праводзіцца дэнамінацыя грашовай адзінкі і замена грашовых знакаў у абароце на новыя суадносіны: адна тысяча рублёў у грошай старога ўзору на адзін рубель новых грашовых знакаў. Працэс замены будзе праходзіць на працягу ўсяго 2000 года.***

Да 1 лістапада 1999 года Савету Міністраў даручана вызначыць парадак правядзення мерапрыемстваў, звязаных з дэнамінацыяй, з тым, каб яна была накіравана на “умацаванне нацыянальнай валюты, выкананне інтарэсаў насельніцтва і дзяржавы”. Праекты рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, а таксама ўсе гаспадарчыя і фінансавыя разлікі на 2000 год павінны распрацоўвацца, зыходзячы з новага маштабу цэн.

Нацыянальнаму банку Беларусі даручана забяспечыць выраб і дастаўку ва ўстановы банкаў грашовых знакаў узору 2000 года, іх паступовы ўвод у абарачэнне і абмен установамі Нацбанка гэтых грашовых сродкаў да 2003 года.

Як адзначаецца ва ўказе, рашэнне аб дэнамінацыі прынята “у мэтах умацавання валюты і ўдасканальвання грашовага абарачэння ў краіне, спрашчэння ўліку і разлікаў у народнай гаспадарцы”.

Як раней паведамляў БелаПАН, указам А. Лукашэнкі з 1 студзеня 2000 года змяняюцца намінальная вартасць грашовай адзінкі Беларусі і маштаб цэн у 1000 разоў. З гэтай нагоды разліковыя білеты ўзору 1992—1999 гадоў будуць замененыя на білеты ўзору 2000 года ў суадносінах 1000 рублёў старога ўзору на 1 рубель у новых грашах узору 2000 года.

20 кастрычніка на пасяджэнні Савета дырэктараў Нацбанка РБ было асабліва падкрэслена, што ўладальнікі грошай не панясуць ніякіх выдаткаў і замена грашовых знакаў будзе рабіцца паступова ў працэсе іх абарачэння.

Як было паведамлена на Савеце дырэктараў, Нацбанкам з 1 студзеня 2000 года будуць выпушчаныя ў абарачэнне новыя білеты наміналам 1, 5, 10, 20, 50, 100, 500, 1000 і 5000 рублёў. У мэтах хуткага прывыкання насельніцтва да новых грашовых знакаў, у асноўным, захаваецца іх ранейшы выгляд з намінальнай вартасцю, зменшанай у 1000 разоў.

У такой жа прапорцыі будуць зменшаныя цэны на тавары і паслугі, пералічаныя рахункі ў банках, балансавыя звесткі справаздач усіх юрыдычных асоб і іншыя абавязацельствы, якія маюць грашовую ацэнку.

Разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі ўзору 1992—1999 гадоў выпуску застаюцца ў абарачэнні на тэрыторыі краіны на працягу ўсяго 2000 года і абавязковыя да прыёму ўсімі юрыдычнымі і іншымі асобамі ва ўсе віды плацяжоў, а таксама банкамі для залічэння ва ўклады, дэпазіты, на бягучыя (разліковыя) і іншыя рахункі без усялякіх абмежаванняў з разліку адной тысячнай іх намінальнай вартасці. Пры гэтым прамы абмен грошай старога ўзору ўстановамі банкаў рабіцца не будзе. А з 1 снежня 2001 года ўсе ўстановы банкаў пачнуць выдаваць кліентам білеты толькі новага ўзору. Старыя ж грашовыя знакі можна будзе абмяняць ва ўстановах Нацыянальнага банка, але не пазней 31 снежня 2003 года.

У перыяд паралельнага абарачэння грашовых знакаў старога і новага ўзораў ва ўсіх месцах продажу тавараў і аказання паслуг у цэнніках абавязкова будуць указвацца цэны як у старым, так і ў новым маштабах.

Нацбанк Беларусі абяцае прыняць усе захады для таго, каб працэс замены грошай прайшоў спакойна і лёгка.

*Максім ЦІТОЎ, Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.*

 

 



АЦЯПЛЕННЕ

# Цяпло – толькі па загадзе «зверху»

**Пачатак тэмы на 1 стар.**

Як сказаў Васіль Манчанка, летам кацельню сур'ёзна рыхтавалі да зімы. Самае галоўнае, распачалі капітальны рамонт катла. Такая адказная справа каштуе прыкладна 10 мільярдаў. Ёсць усе падставы лічыць, што ў кватэрах зімой будзе цёпла. Праўда, як і ў іншых гарадах, не ўсё залежыць ад мясцовай улады і спецыялістаў. Рэжым работы кацельні будзе ажыццяўляцца камандамі зверху.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

МАЛАДЗЕЧНА. Тут да ацяпляльнага сезона падрыхтаваліся даўно, што толькі пацвердзіў намеснік дырэктара Маладзечанскіх электрасетак Леанід Кузняцоў. За дзень да пачатку маштабнага ацяпляльнага сезона (не толькі ўстаноў, але і жылля) мы пабывалі ў "сэрцы" горада – кацельні №2.

У Маладзечне, дарэчы, два сэрцы: кацельня №1 у Галянове і №2 ля пуцеправода. Гэтыя два "коміны" забяспечваюць горад цяплом амаль поўнасцю. Іх зоны абслугоўвання сутыкаюцца дзесьці ў раёне цэнтральнага парку. Пад зямлёй толькі магістральных цеплассетак пракладзена 26 кіламетраў, а калі ўлічваць і "капусту" (адгалінаванні), дык больш за 100. Першая кацельня працуе на мазуце, на газ яшчэ пераводзіцца. Другая, наадварот, мазут выкарыстоўвае як рэзерв.

– Адначасова мы можам захоўваць 6700 тон гэтага паліва, – гаворыць начальнік кацельні №2 **Уладзімір Сыракваш**, – ацяпляем жа сваю зону, пераважна, газам. Нітка ідзе ад газаразмеркавальнай станцыі, што за Мыслевічамі. Нельга сказаць, што газам ацяпляць значна танней. Танней за кошт эканоміі. Менш псуецца паветра, калі выкарыстоўваецца газ, таму меншы плацім экалагічны падатак.

**– А колькі грошай за суткі "вылятае" праз трубу?**

– Зімой, у маразы, за 24 гадзіны расходуецца, напрыклад, каля 300 тон мазуту. А тона каштуе дзесьці 90 долараў.

Усе лініі кацельні запрацавалі 20 год таму. За ўвесь час толькі аднойчы, зімой 1985 года, была сур'ёзная аварыя. Тады найбольш пацярпелі жыхары мікрараёна завода парашковай металургіі. Іншым, можна сказаць, пашчасціла: толькі 12 гадзін не падавалася цяпло ў кватэры.

На кацельні няма камп'ютэрнага забеспячэння, калі аўтаматычна рэгулюецца працэс. Ёсць галоўны шчыт упраўлення. Бачыш паказчыкі па ціску, тэмпературы... і сам прымаеш рашэнні.

– Мы пільна сочым за надвор'ем, – расказвае начальнік змены **Сяргей Івашкевіч**, – поўнасцю прытрымліваемся тэмпературнага графіка. Напрыклад, калі на вуліцы –20°C, тэмпература на выхадзе павінна быць 120 градусаў. А пры 0°C – 80 градусаў. А яшчэ ў нас ёсць дыспетчар, які ўносіць свае карэктывы; да прыкладу, улічвае моц ветру.

На кацельні 5 вадагрэйных катлоў. Помпа гоніць ваду праз катлы, дзе яна набывае патрэбную тэмпературу. Газ ці мазут яе награвае. Пасля падарожжа па нашых батарэях, вада зноў вяртаецца на падагрэў. Так яна і цыркулюе ў замкнутым цыкле.

– Летам працаваць прасцей. Даем у краны гарачую ваду, рамантуем нашую гаспадарку, – гаворыць **Уладзімір Сыракваш**, – зімой абсталяванне працуе па мяжы. І самі адчуваем, як тыя машыны, значна больш напружання.

Кацельня №2 – гэта 4 гектары плошчы, пабудовы, жалезныя лабірынты, 74 штатныя работнікі, 100–метровая труба. Дарэчы, да яе жыхары ставяцца неадназначна: маўляў, дыміць. Гэты стратэгічны аб'ект вылучаецца парадкам на тэрыторыі і на рабочых месцах, бо забяспечваць горад цяплом – работа адказная.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***



*Панарама праз плот з "калючкай".*



*За прыборамі галоўнага шчыта сочыць начальнік змены Сяргей Івашкевіч.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ПАСЛЯ ПАДЗЕЙ



*Маладзечанец Максім — удзельнік падзей у Мінску 17 кастрычніка:*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

## Міліцыі мы непатрэбныя

– Ад штаб–кватэры БНФ я, разам з іншымі, нес вялізны бела–чырвона–белы сцяг. Калі калона павярнула на плошчу Перамогі, пад'ехалі міліцэйскія машыны і дзве хуткія дапамогі. Міліцыянты ў першую чаргу чаплялі тых, хто нес сцяг. Мяне схапілі за руку, ударылі па назе, а ад удару дубінкай па галаве я ўхіліўся. Разам з дзвюма жанчынамі, прыблізна 40–гадовага ўзросту, мяне павезлі ў апорны міліцэйскі пункт, дзе пратрымалі да 5 раніцы. Склалі пратакол, што я ў грамадскім месцы (падчас шэсця) мацюкаўся. Раніцой выпусцілі.

У адной жанчыны была разбітая дубінкай галава. Медыцынскую дапамогу ёй так і не аказалі.

Дарэчы, пры сабе я не меў дакумента, які пацвярджаў бы маю асобу. Таму схлусіў, назваў сваё прозвішча і дамашні адрас у іншым горадзе. Сапраўднасць маіх слоў ніхто не правяраў. А пратакол, я лічу, міліцыянты проста выкінулі ў смецціцу. Бо, прынамсі, плаціць нейкі штраф ніхто мяне не абавязваў. Склалася ўражанне, што шараговым міліцыянерам такія "злачынцы", як мы, не патрэбныя.

***Аддзел інфармацыі.***

АКЦЫЯ

# «Рэгіянальная газета» прэміруе таленты

*МАЛАДЗЕЧНА. Пяцёра навучэнцаў сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў разам з бацькамі на гэтыя выхадныя наведаюць ДК чыгуначнікаў, дзе выступяць артысты Маскоўска цырка. За творчасць рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" прэміравала іх білетамі на прадстаўленне, якое адбудзецца ў горадзе.*



*Вольга Карняевіч, тэатральны клас. Юная артыстачка іграе ў многіх сцэнках. Напрыклад, "Жук і аса", "Саша", "Яшчарок". Апошняе запамінальнае выступленне — у дзіцячым садку №23 для дзяцей—інвалідаў.*

– Штогод езджу ў Мінск на Навагоднія прадстаўленні. Мядзведзі на каньках – вось гэта цуд.



*Яўген Рак, музычны клас, перавагу ў навучанні аддае балалайцы. Дыпламант рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах імя Жыновіча.*

– У Мінск, памятаю, прыязджалі белыя мядзведзі. Мішкі вельмі прыйшліся мне даспадобы.



*Кацярына Цярэшка, Юля Штыкава, абедзве з мастацкага класа.*

Каця, дыпламант рэспубліканскага конкурсу «Надзея–экспрэс»:

– У першым класе ў цырку падабаліся мне малпачкі, сабачкі, вучоны поні.

Юля, удзельніца гарадскіх выставак:

– Калі мы жылі ў Новасібірску, з–пад купала цырка зайкі на парашутах спускаліся!



*Павел Монід, музычна—харавы клас, займаецца на гітары. Заняў другое месца на гарадскім конкурсе юных талентаў "Зорны капеж". Пад уласны акампанемент выконваў песню "Пеліканскія астравы".*

– У цырку люблю сачыць за канатаходцамі. Таксама заўсёды падабаецца выступленне клоунаў.

УРУЧАЎ БІЛЕТЫ І ФАТАГРАФАВАЎ ВІТАЛЬ КРУПЯНЬКОЎ.

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# У Радашковічах завялі двухдзённыя кірмашы

**М. Ілья, Вілейскага пав. Віленскай губ.**

Зрабілі прыгаворы, каб раздзеліцца на хутары і ўжо ім зямлю парэзалі. У Ілью на "прыёмачны" прыгавор прыезджаў губэрнатар і вялікі чыноўнік с Пецербурга Стэфановіч. Вёска Лоцевічы мае каля 400 дзес. зямлі, ды ешчэ спадзеваюцца, што прырэжуць 200 дзесяцін казённага лесу, каторы памеж мужыцкіх шнуроў, казна лес ацэніла і мужыкі могуць купляць зямлю з лесом ці без лесу.

*Вілейскі.*

**Радашковічы, Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Завелі ў нас што месяца двох дзённые кірмашы і першы ўжо адбыўся ў сераду 14 кастрычніка. Народу назьбіралося саўсім мала, але габрэі рупяцца, каб кірмаш добра наставіць. Вось адны з іх кажуць, што канечне трэба пусціць у кірмашовы дзень усе тавары таней, а другіе думаюць, што лепей таней прадаваць гарэлку ў рэстаране. А тым часам гарэлку і так у нас ня кепска пьюць. Гэтак у нядзелю, і без кірмашу, трое пьяных мужыкоў з вёскі Гуі прабілі аднаму хлопцу нажом руку і бок.

*Юзя Шчупак.*

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №43 ад 22 акцябра 1909 года.**

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

ЖЫЛЛЁ

## Дзіцячы садок перарос у кватэры

СМАРГОНЬ. Знікла неабходнасць у выкарыстанні дзіцячага садка ў вёсцы Шутавічы.

Каб прасторнае памяшканне не пуставала, праўленне калгаса імя Леніна пахадайнічала перад райвыканкомам аб перадачы яго для жылля. Цяпер робіцца праект, і праз некаторы час пасля рамонту тут пасяляцца некалькі вясковых сем'яў.

***Павел МАКЛЮК.***

КУЛЬТУРА

## Смаргонскіх дзяцей запрасілі ў Германію

СМАРГОНЬ. Нядаўна ў польскім горадзе Валч прайшоў другі міжнародны фестываль фальклору "Сонседзі і краяне".

Беларусь прадстаўляў смаргонскі дзіцячы калектыў школы мастацтваў пад кіраўніцтвам яе дырэктара Ч. Жыха. Школьнікі атрымалі шчырае прызнанне гледачоў і сталі лаўрэатамі гэтага фестывалю. Яны атрымалі запрашэнне на выступленні ў Германію.

***Павел МАКЛЮК.***

НАШЫ ГОСЦІ

# Да нас прыехаў Маскоўскі цырк



*МАЛАДЗЕЧНА—ВІЛЕЙКА. Гэтыя гарады наведае Вялікі Маскоўскі дзяржаўны цырк. Разам з тэатрам звяроў і шоу—праграмай "Гэтыя забаўныя жывёлы". Напярэдадні прадстаўленняў мы сустрэліся з галоўным адміністратарам Аляксандрам СІДАНЧАНКАМ.*

**— Наколькі прафесіянальная трупа, што гастралюе?**

– Разумею пытанне. Сапраўды, цяпер шмат "халтуры", у лепшым выпадку, выступленняў на ўзроўні самадзейнасці. Трупа ў нас з 25 чалавек. Нумар з каралеўскімі ўдавамі і тыгравымі пітонамі "Усходняя фантазія" у далёкім замежжы неаднойчы меў прыз глядацкіх сімпатый. Мядзведзі (дрэсіроўшчыкі Наталля і Ігар Багачовы) – лаўрэаты Міжнароднага конкурсу артыстаў цырка ў Францыі. Дарэчы, больш як паўгода мядзведзі працавалі ў Японіі, а ўдавы – на Тайвані. Клоунскі дуэт "Ціп–Топ" – з "Цирка на Цветном Бульваре". Артысты адпрацавалі ў цырках па 15 год.

**— Сабакі, кошкі таксама нам нешта пакажуць?**

– Дзятва будзе смяяцца "да ўпаду". З кошкамі працуе Сяргей Сердцаў. У свой час – паплечнік па нумары Куклачова. У Кацярыны Зуевай у нумары задзейнічана 5 сабак.

**— Якія імёны маюць вашыя чатырохлапыя артысты?**

– Напрыклад, мядзведзі – Маша і Даша, удавы – Пеця і Федзя, белая балонка (наймацнейшыя апладысменты выклікае, звычайна, яна) – Крапля.

**— Дзе і калі пройдуць прадстаўленні?**

– У Маладзечне выступім у Доме культуры чыгуначнікаў 24 кастрычніка ў 13.30 і 16.00. 25 – у 10.00, 12.00, 18.00. 26 кастрычніка будзем у Вілейцы. Праграма разлічаная на 2 гадзіны. Як заўсёды, з парадам артыстаў і фіналам. На сцэне ўстановім сваё шапіто. Касцюмы, рэквізіты – усё, як мае быць.

**— Дзе яшчэ вы гастралявалі ў Беларусі?**

– Маладзечна – першы беларускі горад, у якім мы выступім (дагэтуль працяглы тэрмін працавалі ў Калінінградзе). І пра беларускага гледача будзем меркаваць па першых выступленнях.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***



 

 



*У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ*

# Крыжаванка ад Ірыны Буцер, Маладзечна



**Па гарызанталях:** 5. Дробная маёмасць. 8. Каменная глыба. 9. Грошы, якія выдаюцца папярэдне ў лік заработнай платы. 13. Земляное ўмацаванне: ямка з брустверам. 16. Ірландская гераічная аповесць. 18. Распараджэнне. 19. Мучыцель, прыгнятальнік. 21. Драпежная начная птушка. 22. У класічнай паэзіі: пераносная назва паветра. 23. Падвясная сетка для сну. 25. Бабуля. 26. Найменшая часцінка элемента. 27. Пасцель. 28. Лесвіца на караблі. 30. Мяшэчак для табакі. 32. Гарыстая мясцовасць. 34. Расліннае масла. 35. Вярблюд. 36. Вядзьмарства. 37. Жыллё манаха–пустэльніка. 40. Злак. 41. Чалавек, які выкарыстоўвае перадавыя метады працы. 45. Герой аповесці Думбадзе. 46. Імя славутай пісьменніцы дэтэктываў. 47. Аднаконны двухколавы экіпаж.

**Па вертыкалях:** 1. Моцны, рэзкі штуршок. 2. У Францыі: каталіцкі святар. 3. Пастаянны склад супрацоўнікаў. 4. Сын Дэдала ў грэчаскай міфалогіі. 6. Бог у ісламе. 7. Геаметрычная фігура. 8. Танцы. 10. Вядомасць. 12. Першы чалавек. 14. Невялікі куфар. 15. Невысокая сцэна. 16. Наўмысны зрыў работы. 17. Знешнія абрысы прадметаў. 19. Печ у пакоях. 20. Старажытная нямецкая манета. 23. Крук, зачэп у багры. 24. Самец кошкі. 29. Доказ невінаватасці. 31. Прымітыўная сельскагаспадарчая прылада. 33. Імя нянькі Пушкіна. 38. Прыродны вадаём. 39. Канечнасць. 41. Паглыбленне ў сцяне. 42. Кароткі густы пушок. 43. Рэлігійная забарона. 44. Ступень у вайсковых званнях.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў 42.*

**Па гарызанталях:** 2. Бор. 4. Манах. 6. Кулінар. 8. Кіль. 9. Анод. 11. Пан. 12. Сок. 14. Бак. 16. Народ. 18. Гагат. 20. Тула. 21. Амега. 22. Арол. 23. Табар. 25. Завал. 27. Сет. 28. Вар. 30. Дон. 31. Лама. 33. Агар. 35. Магадан. 37. Горад. 38. Нар.

**Па вертыкалях:** 1. Поні. 2. Вальс. 3. Ранак. 4. Мул. 5. Хан. 6. Кіно. 7. Роба. 8. Карабел. 10. Дагавор. 11. Палас. 13. Опера. 15. Каран. 16. Нут. 17. Дар. 18. Газ. 19. Тол. 24. Атам. 26. Адан. 28. Вагон. 29. Радар. 32. Маг. 34. Гад. 36. Арат.

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

## Аканфузілася

У вёсачцы Пацеха той–сёй гнаў самагонку – для сваіх патрэб. Людзі ведалі адзін аднаго, давяралі свае сакрэты, і міліцыя ніяк не магла знайсці ні самагонных апаратаў, ні гатовага вырабу. Але апошнім часам яны без асаблівых цяжкасцяў пачалі выяўляць «майстроў». Людзі перасталі давяраць адзін аднаму, бо міліцыянеры ведалі, дзе хто схаваў кацёл, трубкі ці бутлю.

У адной кабеты памер муж. Нябожчыка памылі, ваду злілі ў бочачку. Праз два дні ўдава вынесла посуд у сад і закапала непадалёку ад яблыні (палічыла, што нельга выліваць пад ногі ці на сметнік). Усё гэта бачыла суседка, якая і патэлефанавала ў міліцыю: робяць запас самагонкі, бочку закопваюць.

Міліцыя тут як тут. Адкапалі посуд (бочачка мела дно і пакрыўку, вада захавалася). Не пытаючыся ў гаспадыні нічога, міліцыянеры налілі ў кружку і адзін пакаштаваў.

– Не разумею, што тут ёсць, – кажа адзін і перадае кружку.

Другі пацягнуў ды звяртаецца да гаспадыні:

– Што ты надумала нейкую мыльную ваду закопваць?

– Гэта я, сыночкі, так схавала тую ваду, у якой мылі мужа–нябожчыка. Можа, нельга было так рабіць? Даруйце, не ведала.

Што далей рабілася, няцяжка ўявіць. Міліцыянераў ванітавала, яны ўсе пакрыліся потам, адняло мову. Адзін толькі змог сказаць:

– Ну, пачакай, Тэкля, гэта ты нас навяла на бруд–самагонку!

У паселішчы ўсе даведаліся, адкуль і ад каго зыходзяць звесткі пра падзеі з жыцця людзей. З Тэкляй не размаўлялі, яе дом абыходзілі, асцерагаліся яе доўгага языка.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

*З НАТУРЫ*

## Салют маладога бацькі

*Вольга Башкевіч нядаўна выпісалася з раддома, што на захадзе Мінска:*

– Шкада, што нарадзіла 30 верасня. З 1 кастрычніка мінімалка ўзрасла. "За роды" з работы атрымаю па старых расцэнках. Паспяшалася крыху.

Гляджу я неяк на вуліцу з палаты, а ўнізе пад вокнамі хлопец гуляе. Глядзіць уверх і не ведае, як жонку паклікаць. Не надта дакрычышся – 4 паверх. Убачыў мяне ў акне – бярэ кавалак цагліны і вялізнымі лічбамі на асфальце выводзіць: 408. Маўляў, пакліч. Мне не цяжка, схадзіла, паклікала.

Гляджу, хлопец прытанцоўваць пачаў. Побач куча лісця была – салют робіць, сябе лісцем пасыпае. Раскідаў усю кучу. Нованароджанага сына паказалі!

*Надзея ЛІСАВА.*

*ПРОСТА АНЕКДОТ*

Ад раніцы бацька кажа сынам:

– Нейкая гадзіна скрала ў нас ноччу карову.

Малодшы кажа:

– Калі гадзіна – значыць, малога росту.

Сярэдні:

– Калі малога росту – значыць, са Шнуроў.

Старэйшы:

– Калі са Шнуроў – значыць, Пецька–крывы.

Пайшлі ў Шнуры, надавалі Пецьку па пятай кропцы – не аддае карову:

– Не краў! – кажа.

Павялі браты Пецьку–крывога да суддзі – маўляў, скраў карову, але не аддае. Па пятай кропцы надавалі – не аддае, па твары надавалі – не аддае, нават на шарах далі – усё адно не аддае.

Суддзя ў іх пытаецца:

– А з чаго вы ўзялі, што гэта Пецька–крывы?!

– Як чаму? – адказваюць браты. – Скралі карову, значыць, гадзіна скрала, калі гадзіна – значыць, малога росту, калі малога росту – значыць, са Шнуроў, там усе кароткія, калі са Шнуроў – ясная справа, што Пецька–крывы.

– Цікавая логіка, – кажа суддзя. – А што, па–вашым, у мяне вось у гэтай скрыньцы?

– Квадратная скрынка, – сказаў бацька.

– Значыць, у ёй круглае, – сказаў малодшы.

– Круглае – значыць, аранжавае, – сказаў сярэдні.

– Аранжавае – ясная справа, што апельсін, – сказаў старэйшы.

Пачухаў суддзя патыліцу, дастаў са скрынкі апельсін, задуменна паглядзеў на яго, на Пецьку і загадаў:

– Крывы, аддай, блін, братам карову...

*ІМЯ*

## Барыс Грабеншчыкоў любіць Лондан і Катманду

***Чым жыве цяпер чалавек, з імем якога ў многіх трывала асацыіруецца група «Акварыум»? Найперш, ён вандроўнік. За мяжу выбіраецца «чым часцей – тым лепш». Любіць ездзіць у Катманду, але «адзіным горадам, прыгодным для чалавечага жыцця», лічыць Лондан. З гэтага і пачалося інтэрв'ю.***

– **Гэта праўда, што ў Лондане вы жылі у доме з прывідамі?**

– Праўда. Але ў аднаго з іх быў жудасны акцэнт. Спачатку я палічыў яго за ірландскі, а затым зразумеў – прывід з Уэльса. Увогуле, духі ўвесь час займаліся немаведама чым: куцілі ноччу, клікалі адзін аднаго, увесь час адкаркоўвалі флакон з карвалолам і ставілі на стол. Чымсьці мы ім не дагадзілі. Калі расказвалі нашым сябрам–англічанам пра гэта, яны вельмі смяяліся над гісторыяй, гаварылі: «вар'яты–рускія». Аднак мясцовыя жыхары былі іншай думкі. Яны нам сказалі, што з гэтага дома сапраўды вельмі многія людзі з'язджаюць, таму што моцна назаляюць прывіды. Дарэчы. Дом пабудаваны на тэрыторыі знакамітых Тайбернскіх могілак, якія вядомыя яшчэ па рамане «Праз дваццаць год». Дарэчы. Я купіў адпаведныя духмяныя рэчывы, якія прывіды цяжка пераносяць, і паўтара месяца яны мяне амаль што не турбавалі...

**Працяг будзе.**

*Падрыхтаваў Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.*

*ЗІМА НА НОСЕ*

## Каб не замерзнуць

Мусіць, добра ў цяперашняе надвор'е сядзець каля печкі ды лушчыць семкі. Знаёмая з Радашковічаў, якая мерзла ў кватэры, параіла:

– Электраабагравальнік шмат "матае" – за святло потым усю зарплату аддасі. Я набіраю ў пластмасавую бутэльку (1,5 л) гарачай вады і кладуся з ёй спаць. Абдыму бутэльку – і так цёпла на душы робіцца. Можна абкласціся самаробнымі грэлкамі, толькі вось мужу не падабаецца: месца яму, бачыце, мала.

*Надзея ЛІСАВА.*

## Яна і ты

**Жанчына** непакоіцца пра сваю будучыню да таго часу, пакуль у яе няма мужа.

**Мужчына** ніколі не турбуецца пра сваю будучыню да таго часу, пакуль у яго няма жонкі.

*ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ*

## А жывая рыба дзе павінна быць?

☺ Так атрымалася, што падарылі знаёмаму акварыум, а праз некаторы час жонка прынесла ад сяброўкі і кацяня – маленькае такое, пухнатае. Вось кацяня паціху расло, знаёмілася з акварыумам і яго жыхарамі, гадзінамі магло ляжаць перад шклом (усе каты рыбакі, мусіць, у душы). Аднак лапамі не лазіла. Хаця рыбу вельмі паважала.

Прынёс неяк сусед рыбкі – свежай, але дробнай (сантыметры па 3–4), бо карміць пушысціка трэба. Некалькі рыбёх паклалі кату ў міску, а астатнія – у маразілку. Пасля гэтага ўсе дружна пайшлі глядзець тэлевізар, дзе ішла чарговая серыя.

Праз некаторы час зазірнуў гэты мой знаёмы ў пакой, дзе стаяў акварыум, і аслупянеў: плавае пара рыбак уверх жывоцікам. А пушысцік сядзіць і назірае.

Толькі пачаў мужык са ступару выходзіць (надта прыкіпеў ён да рыбак, у адсутнасць ката сам гадзінамі сядзеў ля іх) і меркаваць, як пакараць нахабнага ката за нявінна загубленую рыбу (яму, гаду, паклалі свежай на кухні – навошта ж у акварыуме лавіць?!), як кот ліняе паміж ног гаспадара. Той – у пагоню.

Кот шнырае на кухню, хапае з міскі апошнюю рыбінку і бяжыць да акварыума. Тут толькі да мужыка дайшло. Рыба ў акварыуме жывая? Жывая. А ў місцы? Самая што ні на ёсць свежая, яшчэ жабрамі варушыла. А жывая рыба дзе павінная быць? Правільна...

Не кот, а служба выратавання нейкая. У пацверджанне ўсяго, размарожаную рыбу ён з'еў з варкатаннем і піскам за вушамі.

☺ Другую «кацінную гісторыю» расказаў знаёмы, які колькі ўжо год трымае кошку і, натуральна, пастаянна абнаўляе «пухнаты парк».

Сыны ў яго былі малыя, калі жонка злегла ў бальніцу. Займаць малых чымсьці трэба было, каб тыя днямі бацьку не даставалі, і купіў ён ім некалькі хамячкоў. Разам з домікам (там лесвічкі розныя, вавёрчына кола і іншыя радасці хамячыныя).

Увечары перад сном заўважыў ён такое: сядзіць, значыць, кот ля доміка і пільна сочыць за адным з хамякоў, а той залез у вавёрчына кола і беспаспяхова імкнецца ад ката збегчы. Пасміхнуўся знаёмы на каціна–хамячыныя забавы ды пайшоў спаць.

Ад раніцы, калі прачнуўся, убачыў тую самую сітуацыю: кот уважліва (вачэй не зводзіць!) глядзіць на хамяка, а той у сваю чаргу працягвае «рабіць ногі». Пасля таго, як знаёмы адцягнуў ката, гаротны хамяк вылез з кола, матроскай паходкай дабраўся да паілкі, папіў і тут жа «вырубіўся» (пасля гэтай ночы ён праспаў больш за суткі).

☹ На заканчэнне пытанне: кот увесь час прызямляецца на лапы, а бутэрброд – маслам уніз. А што будзе, калі кату на спіну прымацаваць маслам уверх бутэрброд, падняць і ўпусціць яго (ката, натуральна)?

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

*ГАРАСКОП 25 – 31 КАСТРЫЧНІКА*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Перыяд пусты і непрадукцыйны. Не прадпрымайце спробаў змяніць сітуацыю фарсіраванымі метадамі – змарнуеце час і сілы.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Нечакана для сябе вы даведаецеся, што чалавек, з якім вы жывяце ці даўно працуеце поруч, «капае» пад вас. Чым саладзейшыя былі ягоныя словы, тым глыбей зайшоў гэты працэс.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Магчымыя рэзкія перапады самаадчування – ад выдатнага да «перадсмяротнага».

**РАК (22.06–23.07)**
Як бы вы ні супраціўляліся камандзіроўцы, давядзецца ехаць. Нечаканыя праблемы будуць вырашаныя практычна без вашага ўдзелу.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Калі вашыя дзеянні і думкі на працягу апошніх месяцаў былі чыстыя, радуйцеся: вам будзе спадарожнічаць поспех.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Спрыяльны перыяд для творчасці, стасункаў і кахання. Бізнесмены–Дзевы рызыкуюць правалоцца на якой–небудзь дробязі, калі захопяцца пошукамі гармоніі.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Усё някепска, асабліва ў тых прадстаўнікоў гэтага знака, хто не мае даўгоў. «Дастаць» могуць крэдыторы, кепскае надвор'е.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Вы мелі неасцярожнасць дзяліцца сакрэтамі з не самымі прыстойнымі людзьмі (ці, што яшчэ горш, стаць сведкамі чужой тайны).

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Выявяцца хваробы, стомленасць. Лепш паберагчы сябе і не планаваць ніякія мерапрыемствы.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Вы занадта строгія, каб пастаянна нарывацца на кампліменты, але і вашае сэрца патрабуе прызнання. Ёсць усе шанцы атрымаць яго.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Перыяд падыходзіць для планавання, арганізацыі і зменаў. Але ўсё гэта тычыцца толькі асабістай сферы. Не варта імкнуцца ў лідэры, фаварыты і начальнікі, пачакайце хаця б да зімы.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Давядзецца перажыць не самы лёгкі дзень у годзе – сумная падзея выб'е з каляіны. Яна не будзе тычыцца непасрэдна вас, таму настройце сэрца на спакойны лад.



 

